


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 14 (24) • 22—28 МАЯ 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

Які правапіс нам патрэбны? Стар. 2
Амерыканскі кангрэс: слова ў абарону беларусаў Стар. 2
Кнігі, якіх чакалі Стар. 3
Каб успомнілі добрымі словамі, што і ў свеце няма... Стар. 4

## Поступ тыдня

Учора ў Мінску пачалася чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета БССР дванаццатага склікання. У парадак дня яе ўключана 35 пытанняў, найбольшую ўвагу, лічыцца, прыцягне да сябе праект стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароненасці насельніцтва рэспублікі. Некаторыя пытанні вынесены на абмеркаванне народных дэпутатаў па прапанове забастовачных камітэтаў.

* * *

Напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі адбылася канферэнцыя стачкамаў Беларусі. Яе ўдзельнікі прынялі зварот да народных дэпутатаў БССР. У ім выказваецца патрабаванне разгледзець на сесіі пытанні, што «маюць выключна важнае значэнне не толькі для тых, хто жыве цяпер, але і для будучых пакаленняў». Калі сесія не задаволіць патрабаванні стачкамаў, 22 мая пачынаецца ўсеагульная стачка.

* * *

Створана следчая група па фактах злоўжывання службовым становішчам, невыканання сваіх абавязкаў службовымі асобамі міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, якія маюць дачыненне да катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Мяркуецца, аднак, што найбольш важныя дырэктывы тыпу «не сеяць панікі» і «вывесці людзей на дэманстрацыю» аддаваліся па тэлефоне, таму рэальныя віноўнікі хутчэй за ўсё юрыдычнай адказнасці не панясуць.

* * *

Створана і ўжо дзейнічае ініцыятыўная група па ўтварэнню дабрачыннай новай грамадскай арганізацыі — Беларускай асацыяцыі мецэнатаў. Гэта будзе аб'яднанне спонсараў, што ставяць сваёй задачай мэтанакіравана размяркоўваць сродкі на развіццё беларускай культуры.

* * *

У Гродна ствараецца харугва скаўтаў Беларусі. Работа ў ёй будзе весціся на беларускай мове, выхаванне ж дзяцей мяркуецца будаваць на аснове агульначалавечых каштоўнасцей.

* * *

У мінскай школе № 70 прайшоў Тыдзень адраджэння беларускай культуры. Адзін дзень быў прысвечаны веснавой абрадавай паэзіі, дзіцячаму фальклору. У свяце прыняў удзел харэаграфічны калектыў Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей.

## ЗЫХОДЗЯЧЫ З ІНТАРЭСАЎ НАРОДА

### ЗАЯВА

### Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

Праект Саюзнага Дагавора, які па ініцыятыве Вярхоўнага Савета СССР у лютым 1991 года быў прадстаўлены паўнамоцным прадстаўнікам шэрагу саюзных і аўтаномных рэспублік, змяшчае ў сабе палажэнне аб прызнанні за рускай мовай статуса афіцыйнай мовы СССР.

Як вядома, ва ўсіх саюзных рэспубліках, акрамя РСФСР, прыняты законы, паводле якіх мовы карэнных народаў абвешчаны дзяржаўнымі ў межах адпаведных тэрыторый. Закон Беларускай ССР аб мовах адназначна вызначае дзяржаўны статус беларускай мовы ў межах рэспублікі, а рускай забяспечвае правы мовы міжнацыянальных зносін. Прыняцце азначанага Закона стала важным актам гістарычнай справядлівасці і дзяржаўнай мудрасці.

Дзяржаўны статус нацыянальнай мовы рэспублікі з усёй пэўнасцю быў вырашаны самім фактам існавання суверэннай Беларускай ССР, пераняўшай у спадчыну традыцыі беларускай культуры і дзяржаўнасці, якія маюць тысячагадовыя карані.

Улічваючы вышэй азначаныя палажэнні, а таксама тое, што праект Саюзнага Дагавора ў частцы артыкула 20, які вызначае статус рускай мовы як афіцыйнай, фактычна дзяржаўнай на ўсёй тэрыторыі СССР, супярэчыць Закону БССР аб мовах і Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы, зыходзячы з інтарэсаў беларускага народа, грунтуючыся на Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце і выкарыстоўваючы канстытуцыйнае права, выступае перад Вярхоўным Саветам БССР з заканадаўчай ініцыятывай не падпісваць Саюзны Дагавор у той яго частцы, якая вызначае статус рускай мовы як афіцыйнай на тэрыторыі СССР.

Артыкул 20 праекта Саюзнага Дагавора прапануем назваць: «Дзяржаўныя мовы» і даць ў наступнай рэдакцыі: «Моўныя ўзаемадачыненні дзяржаў — удзельніц Саюзнага Дагавора вызначаюцца адпаведнымі рэспубліканскімі заканадаўчымі актамі — Законамі аб мовах».

г. Мінск.

*Віктар ШНІП*

## НА КУРГАНАХ

*Прысыпаныя мёртвым пылам пліты,*
*Пазалачоных слоў не разабраць.*
*Тут новыя магілы — на забытых,*
*Магіл забытых век не адшукаць.*
*Нам не знайсці, дзе пахаваны Будны,*
*Мы таленты суседзям раздаём.*
*Нам Беларусі шлях жыцця пакутны*
*Пазнаць па кнігах, чытаных агнём.*

*Ды кнігі, як злачынцы, пад замкамі*
*За праўду, што не здрадзіла ў вяках.*
*Гісторыю пісалі курганамі,*
*Пазнаю Беларусь па курганах.*

*Прысыпаныя мёртвым пылам пліты*
*Патрэскаюць ад лютых маразоў.*
*Успомнім непрызнаных і забытых,*
*Ім аддадзім як доўг сваю любоў.*

*І курганам сівым імёны вернем,*
*Імёнамі асветліцца наш шлях.*
*Як дуб за жвір трымаецца карэннем,*
*Так Беларусь стаіць на курганах.*

## БОЛЬ І ТРЫВОГА МАЛАДЫХ

Напярэдадні Дня перамогі, 8 мая, у Палацы мастацтваў адкрылася выстава «Пошук і эксперымент», якая парушыла шматгадовую традыцыю сустракаць свята карцінамі ветэранаў вайны. На гэты раз на суд гледачоў вынеслі свой боль і трывогу за родную зямлю і свой народ маладыя мастакі, чыя творчасць гадоў 6—7 назад выклікала ў старэйшых таварышаў абурэнне. Цяпер жа некаторыя з «мэтраў» з цікавасцю разглядалі новыя работы Ф. Янушкевіча, А. Смаляка, М. Бушчыка, А. Ксяндзова, А. Тарановіча і іншых мастакоў.

Народны мастак БССР Леанід Шчамялёў у сваім выступленні на адкрыцці выставы (прыкра, канечне, што мастак, будучы народным, не гаворыць на дзяржаўнай мове сваёй Айчыны, якая высока ацаніла яго творчасць) сказаў добрае слова пра «Пошук і эксперымент». Што ж, ідзе час, і многія старэйшыя мяняюць свае погляды на творчасць маладых і цяпер, відаць, шкадуюць, што карціны, на якіх усхваляецца «развіты сацыялізм», ужо ўвайшлі ў гісторыю беларускага мастацтва, і ад іх нельга адмовіцца... А мову, калі паважаць свой народ, можна вывучыць і сёння. Гэта зрабіць ніколі не позна!

В. Ш.



НА ЗДЫМКУ: Мітынг у час Чарнобыльскага шляху ў Мінску. Выступае пісьменнік Уладзімір Арлоў, справа — Алесь Адамовіч.

Фота Ул. САПАГОВА.

# МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ — БЫЦЬ!

**Як паведамлялася ўжо (НС, № 11) 25 мая г. г. у Мінску пачынае работу Першы ўстаноўчы Міжнародны кангрэс беларусістаў.**

**А ідэя гэтая нараджалася з асабістых сустрэч і ліставання вядомых дзеячаў культуры свету.**

***Шаноўнаму сакратару Арганізацыйнага камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў***

### ГЛЫБОКАПАВАЖАНЫ СЯБРА!

Атрымалі Ваш ліст з паведамленнем аб утварэнні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Усе мы былі вельмі ўсцешаныя, што нарэшце яна стала рэальнасцю. Вітаем гэта і спадзяёмся, што з яе ўтварэннем будзе значная палёгка ў дзейнасці тых людзей, якім даручана праца па вывучэнню і прапагандзе беларускай культуры і літаратуры ў розных яе галінах. Ужо колькі год мы адчувалі патрэбу ў такой супольнасці. І мы ўпэўнены, што ўтварэнне асацыяцыі паспрыяе пашырэнню зацікаўленасці праблемамі беларусістыкі на ўсім свеце.

Мы маем пэўную неафіцыйную супольнасць — Таварыства аматараў беларускай літаратуры. Яго непасрэдная задача — пераклад і ўводзіны індыйскага чытача ў свет лепшых здабыткаў беларускай літаратуры. Мы ўжо правялі вечарыны беларускай літаратуры ў розных гарадах.

Цяпер мы вырашылі стварыць у межах МАБ Індыйскую асацыяцыю беларусістаў. Створаны падрыхтоўчы камітэт, у якім я займаюся падрыхтоўкай праекта статута. У будучыні плануем склікаць агульны сход і зарэгістраваць асацыяцыю ў Дэлі.

І на заканчэнне ліста паведамляю прыемную навіну — Анталогія беларускай паэзіі (у маім перакладзе) была ўшанавана вельмі прэстыжнай узнагародай (Усеіндыйскай прэміяй імя Рам Чандра Шукла).

Мае лепшыя зычэнні. Шчыра Ваш
доктар **ВАР'ЯМ СІНХ.**
Універсітэт імя Д. Неру ў Нью-Дэлі, Індыя.

### ШАНОЎНЫ ДОКТАР ЦЫХУН!

У сярэдзіне студзеня я атрымаў ліст, падпісаны Вамі ад імя Арганізацыйнага камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Дазвольце павіншаваць Вас і ўсіх іншых членаў камітэта з паспяховым пачаткам.

Я і мае калегі ўжо даўно думалі аб'яднаць свае намаганні з беларусістамі свету ў межах міжнародных даследных праграм, і Ваша прапанова стала вельмі і вельмі дарэчы.

Высылаю Вам запоўненыя анкеты. Пакуль іх толькі тры. Але я ўпэўнены, што да траўня — даты першага з'езда — мы здолеем аб'яднаць вакол нас іншых японскіх славістаў.

Шчыра Ваш
праф. **ЮН-ІХІ САТО,**
сябра Міжнароднага камітэта славістаў.
Такійскі універсітэт.

### ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ СПАДАР СТАРШЫНЯ! ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ СПАДАР САКРАТАР!

Выказваю Вам шчырую падзяку за зычлівы ліст ад 30 лістапада, анкету і нумар «Нашага слова» з праектам статута МАБ. Згодна з Вашай просьбай вяртаю запоўненую анкету. Копію бланка і статута я адаслала старшыні Швейцарскага згуртавання славістаў дзеля таго, каб ён азнаёміў членаў ШЗС з мэтамі і мерапрыемствамі МАБ. Згуртаванне, куды ўваходзяць адны толькі прафесары універсітэтаў, а не славяністы-навукоўцы ўвогуле, па колькасці членаў зусім нязначнае. У параўнанні з іншымі заходнееўрапейскімі краінамі Швейцарыя мае маладую, нядаўнюю славістычную традыцыю. Славянскія мовы і літаратуры выкладаюцца ва універсітэтах Цюрыха, Берна, Базеля і Фрыбурга — руская, апрача таго, ва ўсіх вышэйшых навучальных установах.

Беларуская ж мова і літаратура, на жаль, вельмі рэдка ўключаецца ў сферу вучэбных і навуковых праграм (6 гадоў назад я прачытала курс «Уводзіны ў беларускую мову і літаратуру» для студэнтаў цюрыхскай кафедры славістыкі). Сярод швейцарскіх славістаў я не ведаю ніводнага спецыяліста або прыхільніка гэтай галіны. Такім чынам, у нашай краіне са стварэннем пажаданай асацыяцыі беларусістаў — тым больш з выбраннем дэлегата на з'езд МАБ — прыходзіцца вельмі крута. Пакуль што, здаецца, я ледзь не адзіная энтузіястка...

З павагай і шчырым прывітаннем,

Моніка **БАНЬКОЎСКА-ЦУЛІГ.**
Цэнтральная бібліятэка ў Цюрыху.
(Ліст атрыманы на беларускай мове).

# «Гэта не расійская правінцыя!»

## Амерыканскі кангрэсмен пра Дзень незалежнасці Беларусі

21 сакавіка 1991 года на чарговым пасяджэнні Кангрэса Злучаных Штатаў Амерыкі выступіў кангрэсмен ад штата Ілінойс Дж. Анунцыо. Ён адзначыў, што 25 сакавіка 1918 года беларускі народ абвясціў сваю незалежнасць, спадзеючыся аднавіць таксама сваю культурную аўтэнтычнасць. Але яго мара засталася няздзейсненай. Разам з іншымі народамі Савецкага Саюза, — падкрэсліў Дж. Анунцыо, — дзесяткі тысяч беларусаў імкнуцца, каб на іх Радзіме паважаліся асноўныя правы чалавека і беларускія культурныя традыцыі.

Далей амерыканскі кангрэсмен сказаў: «Саветы спрабавалі русіфікаваць Беларусь дзеля таго, каб паказаць, што гэта краіна — усяго толькі правінцыя з адзінай аднароднай нацыяй. Але, нягледзячы на гэта, беларусы маюць сваю адметную славянскую мову, сваю культуру, свой фальклор. Беларускі народ,— адзначыў далей Дж. Анунцыо, — вымушаны святкаваць свой Дзень незалежнасці за межамі роднага краю. Адно з такіх свят беларускай культуры павінна адбыцца 21 красавіка ў Чыкага. Яго спонсар — Беларускі Каардынацыйны камітэт у Чыкага, штат Ілінойс. Ва ўрачыстасцях прымуць удзел больш за 150 чалавек. Удзельнікі збяруцца ў беларускім рэлігійным і культурным цэнтры, дзе адбудзецца святкаванне».

Камітэт з'яўляецца спонсарам экспазіцыі, што разгорнута ў Цэнтры імя Рычарда Дэйлі ў Чыкага з 18 па 29 сакавіка. Гэтая экспазіцыя адлюстроўвае дух беларускай незалежнасці. Яна робіць акцэнт на культурную спадчыну Беларусі і будзе прысвечана сотым угодкам з дня нараджэння Максіма Багдановіча, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай паэзіі. Далей кангрэсмен Дж. Анунцыо выказаў падзяку Веры Рамук, сакратару Беларускага Каардынацыйнага камітэта ў Чыкага, і прадстаўнікам іншых камітэтаў, якія зрабілі шмат карысных спраў дзеля незалежнасці і свабоды Беларусі. Ён паведаміў і аб выказанай яму Верай Рамук занепакоенасці тым, што вялікая колькасць беларусаў падтрымала нядаўні рэферэндум па захаванню Савецкага Саюза. Дж. Анунцыо падкрэсліў: «Я падзяляю непакой Веры Рамук аб тым, што беларусы, якія прагаласавалі за Саюз, дзейнічалі так з-за боязі перад уладамі, але тым не менш яны хочуць дэмакратычных рэформ. Кожны, хто прачытае пытанне, адрасаванае беларусам у час рэферэндуму, зразумее, што яно прызначана дзеля вынікаў, патрэбных савецкаму рэжыму».

Далей Дж. Анунцыо папрасіў уключыць у пратакол пасяджэння заяву Беларускага Каардынацыйнага камітэта ў Чыкага, у якой змешчана праграма святкавання Дня незалежнасці Беларусі.

У канцы свайго выступлення перад Кангрэсам ЗША кангрэсмен абвясціў аб прыездзе ў Злучаныя Штаты Амерыкі групы беларускіх парламентарыяў: Зянона Пазняка, лідэра парламенцкай апазіцыі, старшыні Беларускага Народнага Фронта; Лявона Баршчэўскага і Уладзіміра Заблоцкага. Ён паведаміў, што беларускія парламентары сустрэнуцца з сенатарамі ў сенацкай камісіі па замежных справах 8—9 красавіка.

Сваю прамову кангрэсмен Дж. Анунцыо скончыў наступнымі словамі: «У дні, калі набліжаецца 73-я гадавіна Дня незалежнасці Беларусі, я хачу быць разам з беларусамі Чыкага і ўсяго свету, якія змагаюцца за суверэнітэт і свабоду сваёй Радзімы. І я буду падтрымліваць іх намаганні да тае пары, пакуль яны не рэалізуюць сваё законнае права на самавызначэнне» (са стэнаграмы ў «*Congressional Record — House*». Ведамасці Кангрэса ЗША, 21. 03. 1991).

## З рэдакцыйнай пошты

# Як я сябе адолеў

Прачытаў чарговы нумар «Нашага слова» і вырашыў выказаць свае меркаванні пра сітуацыю з нацыянальнай культурай. Прызнацца, раней неяк не асабліва звяртаў на гэта ўвагу, пакуль не пайшоў працаваць у літаратурны музей у Цімкавічы. Менавіта тут, на радзіме класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага, уважліва перачытваючы ягоныя творы, я пачаў разумець, як жа многа ў нас загублена! Прычым за апошнія дзесяцігоддзі асабліва.

На маёй памяці пачалі інтэнсіўна знішчаць і беларускую мову. Памятаю, як цяжка было ў інстытуце замежных моў пераходзіць на суцэльную «расейшчыну». Як смяяліся з нас, вяскоўцаў, гараджане! «Колхозники», — казалі. І мне цяжка было пазбавіцца ад «дзекання», вымаўляць з мяккасцю «ч» — па-руску. Божухна, усё навокал было беларускае, а мы «чёкалі», «окалі», пісалі спрэс канспекты, рэфераты, даклады ці па-англійску, ці, часцей, па-руску. А ўсе сходы, дыспуты — таксама толькі на «великом и могучем». І я сябе, беларускага, адолеў! Ды так, што потым 24 гады працаваў у вёсцы, а пісаць па-беларуску адважыўся толькі ў мінулым годзе. Я ўвесь час жыву сярод беларусаў, чую іх гаворку. Смуткую: выміраюць старыя, якія яшчэ заставаліся носьбітамі чыстага беларускага вымаўлення. Вось і нядаўна пайшла на той свет яшчэ адна бабулька, васьмідзесяцігадовая суседка. А як прыемна было пагутарыць з ёю, пачуць сакавітыя народныя словы...

А якая мова ў моладзі, мы ведаем. Чамусьці яе завуць «трасянкай», «паўмовай». Мо і так... А чаму «мо»? Усе клеткі нашай мовы пранізалі рускія словы, і з нечым трэба мірыцца. Знайдзіце ў нас на Капыльшчыне чалавека, які гаворыць «кухаль» замест «бакал». А ці мала такіх слоў? Я часта чуў слова «варунак». Пачуў яго ад З. Пазняка на сесіі Вярхоўнага Савета БССР і вырашыў даведацца, што яно азначае. Думаеце, падказаў хто? Толькі Тлумачальны слоўнік дапамог.

Чаму іншыя мовы не баяцца запазычанняў? А мы баімся. Трэба прызнаць грамадзянства некаторых русізмаў.

Я вучуся пісаць апавяданні, і мне не хапае Слоўніка сінонімаў беларускай мовы . Дзе знайсці?

А цяпер мае прапановы «Нашаму слову».

1. Добра, што ёсць раздзел «З рэдакцыйнай пошты».

2. Часцей друкуйце матэрыял па гісторыі Беларусі. Калісьці Н. Гілевіч казаў, што па-новаму трэба перапісваць гісторыю нашу. А то цяпер (пасля яго слоў) я ўжо думаю: а ці тое пішуць у кнізе за 1979 год?

3. Спадабаўся мне матэрыял П. Міська «Слухайма, як людзі кажуць...» Болей бы такіх публікацый! Чытаю — і нібы голас тых, хто даўно памёр, чую. А словы, трапныя выразы і цяпер жывыя!

4. Цікава было пачытаць артыкул Х. Лялько «Пра самае важнае». Я. Скрыган... Пра яго мне давядзецца гаварыць калісьці ў нашым музеі. Тут будуць усе літаратары Капыльшчыны. Часцей змяшчайце такое.

Паведамляйце, калі ласка, што выйшла (ці выйдзе) з друку па пытаннях мовы, беларускага літаратуразнаўства.

5. Нашым словам аваладваюць многія людзі. Вось і капыльскія першыя класы на беларускую мову перайшлі. Я не прапаную ствараць нейкі «лікбез». Але ж парады пачаткоўцам трэба.

6. Гумар, сатыра — абавязкова! Кажуць, калі дзень пражыты без смеху, гэта згублены дзень. Хоць і цяжкае ў нас становішча, але гумар падабаецца людзям. Наш народ усё ж аптыміст.

Не памрэ Беларусь, калі не памрэ вёска, а ў горадзе школы пяройдуць на родную мову. Такія мае думкі.

Васіль **ЛОБАН.**

## У суполках ТБМ

# У ПЕРАДГОР'ЯХ АЛАТАУ

У пачатку года сродкі масавай інфармацыі Казахстана распаўсюдзілі зварот ініцыятыўнай групы, якая намагаецца арганізаваць у рэспубліцы беларускае таварыства. У БССР пра гэта паведаміў «Голас Радзімы», № 11. Чым жывуць казахстанскія беларусы зараз? Расказвае адказны сакратар ініцыятыўнай групы Яўген Майсейчык:

— Мы думаем стварыць згуртаванне беларусаў Казахстана «Бацькаўшчына». Мэтай яго будзе абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў рэспублікі на грунце іх супольнай культурна-гаспадарчай дзейнасці, якая ў першую чаргу павінна быць накіравана на развіццё сувязей паміж асобнымі прадпрыемствамі Казахстана і Беларусі. На гэтай аснове мы зможам узмацніць цягу беларусаў да культуры нацыі, яе традыцый і зганьбаванай гісторыі, дапамагчы тым, каго зачапіла чарнобыльская бяда.

— Што ўжо зроблена?

— Ствараем культурныя цэнтры ў гарадах Казахстана, федэрацыя якіх і стане згуртаваннем. Людзі ўжо адгукнуліся, працуюць над гэтым. Пакуль што шмат перашкод. Нам патрэбна літаратура, а яе няма. Нават у рэспубліканскай бібліятэцы няма кніг на беларускай мове, якія выдавалі ў БССР за гады Савецкай улады.

— Мабыць, вы хочаце даць ваш адрас?

— Так, вядома. Мы будзем вельмі ўдзячны тым, хто дапаможа з літаратурай і наогул у такой складанай справе, як стварэнне таварыства. Пішыце нам: 480123, Алма-Ата, аддзяленне сувязі 123, паштовая скрынка 0 (нуль).

Юрась **СВІРКА-КАВАЛЬСКІ.**

# Мае прапановы

Я падпісчык «Нашага слова». Мяркую, газета патрэбная ўсім нам дзеля таго, каб берагчы, папулярызаваць і развіваць беларускую мову і наогул культуру. І, што самае важнае, на мой погляд, берагчы яе чысціню. У гэтай справе ў нас, можна сказаць, непачаты край. Вось, скажам, паланізмы і русізмы, дыялекты таксама. Такі прыклад. Цяпер амаль паўсюдна карыстаюцца словам «ліст» у значэнні «пісьмо». А гэта, што ні ёсць, самы сапраўдны паланізм, узяты жыўцом з польскага: «ліст, лістонаш» і г. д. У беларускай мове «ліст» больш разумеецца як ліст паперы, ліст шыферу, ліст на дрэве і г. д. А сапраўднае значэнне яго — гэта пісьмо.

І яшчэ некаторыя пачынаюць карыстацца старой «пісоўняй» з гэтым мяккім «ь», зь, сь. Вось і ўзнікае пытанне: якой жа «пісоўняй» мы павінны карыстацца, каб пісаць літаратурна? Або дыялекты... Як вядома, выдаецца новая газета «Збудінне» — інфармацыйны веснік «Полісьсе». Што гэта? Якія яго адносіны і ўклад у беларускую літаратурную мову? І гэта толькі па аднаму прыкладу. Вось на што, хацелася б, каб «Наша слова» звярнула пільную ўвагу. Канешне, і без палітыкі ніводная газета не можа абысціся, але ж і іншыя, не менш важныя, задачы ў іх ёсць.

Гэта мая заўвага як падпісчыка.

**В. ХАЛІМОНАЎ.** г. п. Мір.

Чыталі? Чыталі?

# НЕРУШ РАНІШНІ

Падобную кнігу хацелася мець даўно. Выданне хрэстаматыйнага тыпу, у якім бы можна было прачытаць паэтычныя радкі, напісаныя слыннымі майстрамі і прадстаўнікамі малодшых пакаленняў, прысвечаныя роднай мове, яе багаццю, непаўторнасці.

Свежыя вятры нацыянальнага абуджэння прынеслі з сабой і чаканую анталогію. Ёй стала хрэстаматыя «Каласы роднай мовы», складзеная У. Анічэнкам і К. Усовічам і выпушчаная выдавецтвам «Універсітэцкае». Пад адной вокладкай сабраны вершаваныя творы (або ўрыўкі з іх) звыш двухсот беларускіх паэтаў, у тым ліку і замежных, беларусаў з Польшчы і аўтараў з саюзных рэспублік.

З сівой мінуўшчыны па сённяшні дзень чуваць ухвальнае слова адной з самых цудоўных моў свету. Гэты калектыўны гімн-ода бярэ пачатак яшчэ з 1529 года. Менавіта тады ў тэксце Літоўскага статута быў змешчаны верш Яна Казіміра Пашкевіча, у якім аўтар выказаў сваё захапленне мовай беларускай, якая, зразумела, фігуруе ў творы пад назвай «руская», прынятай на той час:

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчиною;
Без той в Полсце не пребудешь,
Без сей в Литве блазнем будешь.

Праўда, і ўсе мы гэта добра ведаем, з тых самых даўніх часоў знаходзілася і нямала ахвочых забыць матчына слова. Зразумела, падобныя настроі не праходзілі міма ўвагі творцаў. Аднаго з такіх нацыянальных нігілістаў выразна падаў В. Дунін-Марцінкевіч:

...Герой бальных танцаў і чаркі звінчастай,
Нібыта індык, выхваляецца часта.
Аб мове бацькоў ён пачаў забывацца:
Баіцца, што будуць у салонах смяяцца.

Аднак В. Дунін-Марцінкевіч не мог не бачыць і іншых людзей: «Хоць і мовы замежныя дзяўчына знала, але родную мову сваю шанавала». Падобныя матывы — з аднаго боку — апяванне свайго роднага, крэўнага, беларускага, з другога — выкрыццё тагачасных «тутэйшых» — адчувальны ў творчасці А. Абуховіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, К. Каганца, А. Гурыновіча, Б. Каратынскага. Увогуле, сама тэма беларускай мовы яшчэ з мінулага стагоддзя турбавала ці не кожнага паэта. Больш таго, як слушна сказана ў прадмове, і ў творчасці «беларускіх паэтаў пачатку XX ст. чытач знойдзе лагічны працяг папярэдніх думак і далейшае асэнсаванне адносна якасна новага функцыянальнага развіцця беларускай мовы». Невыпадкова Я. Купала канстатаваў: «Паплыло паводкаю, загуло, як вецер, слова беларускае па вялікім свеце».

Канец дваццатых — пачатак трыццатых гадоў абнадзейваў. Гэта не прамінула засведчыць паэзія: «Была пара — знямела слова ў краі пад уціскам жандарскае нагі...» (Я. Колас); «Духам глянь кругом-навукола: закрасуе наша школа; роднай мовай, родным чынам аджывець наш бедачына» (К. Сваяк); «Кінь саромецца мовы сваёй, звацць сябе беларусам пачні, папрацуй над сялібай сваёй, а пасля з ціхатой адпачні!..»

Скасаваў надзеі на лепшае сталінізм, разбурэнне нацыянальнай будыніны прадоўжылі яго паслядоўнікі. На жаль, пра падобнае становішча з развіццём нацыянальнай мовы, культуры ў цэлым доўгі час і гаварыць не дазвалялася. Адбывалася тое, пра што толькі ў 1988 годзе прама сказаў П. Панчанка:

Вялікая дзяржава —
Вялікая ідэя.
І ўсё ж, таварыш мой,
Мазгамі шавяльні:
Каля агню братэрства
Раслі і ліхадзеі,
І расцвітаў
Вялікадзяржаўны шавінізм...

Кніга пабудавана па храналагічнаму прынцыпу, за аснову ўключэння таго ці іншага твора бярэцца год нараджэння аўтара, а для зручнасці карыстання ёсць імянны і тэматычны паказальнікі. Апошні асабліва спатрэбіцца выкладчыкам, калі ўзнікне неабходнасць правядзення ўрока ці гутаркі. Адразу ж можна лёгка знайсці неабходны матэрыял: адметнасць роднай мовы, мова і народ, мова і гістарычная памяць, паэт і мова, рупліўцы на ніве роднай мовы і т. д. І вядома ж, з анталогіі відавочна, чым жылі творцы ў застойныя гады, як яны непакоіліся за будучыню мовы, а значыць, і самога народа, як рупіла ім выказваць набалелае. Толькі некалькі прыкладаў: «Я люблю людзей, якія вераць у буслоў, што нам вясну прыносяць... У бяссмерце сваёй роднай мовы...» (М. Танк); «Але бывае нават, што паэты гатовы слова матчына забыць...» (С. Грахоўскі); «Хто мову сваю ганіць — матчын дар, не прынясе карысці ён народу...» (А. Грачанікаў).

Дарункам чытачу бачацца старонкі творчасці беларусаў, якія апынуліся ў эміграцыі — В. Адважнага, Н. Арсеньевай, Я. Золака, М. Кавыля, У. Клішэвіча, Р. Крушыгі, А. Салаўя, М. Сяднёва. Іх імёны вяртаюцца з забыцця толькі цяпер. І вядома, прадстаўнічая падборка нашых даўніх сяброў з братніх рэспублік — С. Алейніка, І. Драча, Р. Лубкіўскага, Я. Еўтушэнкі, Э. Межэлайціса, Р. Гамзатава і іншых. Не кажучы ўжо пра беларусаў, што жывуць у Польшчы.

Не забудзем барадулінскія радкі:

Неруш ранішні —
роднае слова,
Мне шукаць цябе,
покуль гляджу...

Захаваем неруш роднага слова — захаваем любоў да яго.

**Алесь Марціновіч.**

**Аўтар пераводзіць ганарар у Ляхавіцкі ашчадны банк на спецыяльны рахунак № 28880 на імя Ванi Рашанава.**

Надрукавана па-беларуску

# «Царкоўны пасланец»

Выйшаў з друку красавіцкі нумар бюлетэня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы пад назвай «Царкоўны пасланец» (Паведамленні Парафіяльнай Рады Кафедральнага Сабора св. Кірылы Тураўскага), Бруклін, ЗША.

Нумар адкрываецца «Велікодным вітаннем Ізяслава, мітрапаліта першаерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы», у якім ён звяртаецца да сваіх суродзічаў з заклікам не забыцца на свой абавязак дапамагчы ахвярам чарнобыльскай бяды на Бацькаўшчыне. З гэтай мэтай ён прапануе ўсім беларусам згуртавацца за мяжою, каб не толькі збіраць магчымыя ахвяраванні сярод эміграцыі, але шукаць і знаходзіць дапамогу з дзяржаўных, грамадскіх і прыватных крыніц. «Усе беларусы павінны ўсвядоміць, што існаванне нашай нацыі немагчыма без нацыянальнай царквы, — гаворыцца ў ім.

— Гэтакаю нацыянальнаю, незалежнаю звонку царквою не можа быць ніякая чужынская юрысдыкцыя, а толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Таму абавязак кожнага беларуса, асабліва праваслаўнага, усяляк падтрымліваць гэтую царкву на эміграцыі ды не шкадаваць сіл і выдатку на яе ўзнаўленне на Бацькаўшчыне».

У рубрыцы «З парафіяльнага жыцця» чытачам прапануецца нарыс пра ўрачыстае святкаванне 65-годдзя з дня нараджэння мітрапаліта Ізяслава, якое супала з дзесятымі ўгодкамі яго епіскапскай хіратоніі.

«Праўда пра Чарнобыль» — пад такім загалоўкам на англійскай мове выходзіць у красавіку кніга Рыгора Мядзведзева. Парафіяльная Рада Кафедральнага Сабора св. Кірылы Тураўскага звярнулася да сваіх парафіян з прапановай запісацца ў чаргу на набыццё кнігі ў мясцовых бібліятэках і дала яе апісанне ў каталогу.

Пра становішча Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) на сённяшні дзень вядзецца гутарка ў публікацыі «Ад Кансісторыі БАПЦ». «Прымушаная існаваць толькі сярод эміграцыі за межамі Краю, — адзначаецца тут, — Беларуская Аўтакефальная Царква ніколі не губляла духоўнай сувязі з Беларуссю. Цяпер жа ёсць магчымасць умацаваць і пашырыць матэрыяльную лучнасць з вернікамі і нават праваслаўным духавенствам на Бацькаўшчыне». Першыя крокі з гэтай мэтай ужо зроблены. Але, на жаль, Рада і Кансісторыя БАПЦ, ды Парафіяльныя Рады не маюць ні фінансавых магчымасцей, ні працоўных рэсурсаў, каб ахапіць хоць у найменшай меры дастатковую колькасць суродзічаў на Бацькаўшчыне. Таму Кансісторыя БАПЦ просіць дапамагчы ў гэтай справе ўсіх вернікаў і ўсю беларускую эміграцыю ўвогуле.

Другі артыкул з гэтай рубрыкі — «Царква на Бацькаўшчыне» — апавядае пра царкоўнае жыццё на Беларусі, дзе ўжо адкрылася 600 парафій і колькасць іх у хуткім часе, напэўна, яшчэ ўзрасце. У Жыровічах дзейнічае духоўная семінарыя, але толькі адзін выкладчык чытае лекцыі па-беларуску, і таму ўзнікае пытанне, ці рыхтуе яна святароў для беларускай паствы, ці больш на ўсесаюзны рынак. Прыемна адзначыць і тое, што беларуская мова будзе паступова ўводзіцца ў адправы.

«Хочацца вітаць заяву мітрапаліта Філарэта, — адзначаецца ў публікацыі, — аб яго гатоўнасці ісці да аўтакефаліі БАПЦ, і не верыцца ў ягоную шчырасць, калі гэтая гатоўнасць абумоўленая казуістычнымі вымогамі незалежнасці пры ўжо абвешчанай ды і раней гарантаванай канстытуцыямі суверэннасці рэспублікі. Урэшце ерарху варта было б успомніць нашу гістарычную незалежную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае і Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў ім, не гаворачы ўжо пра суверэнітэт, што Бог даў кожнаму народу, які Ён стварыў».

Завяршае нумар зварот Парафіяльнай Рады Кафедральнага Сабора св. Кірылы Тураўскага да сваіх парафіян са словамі ўдзячнасці за ахвяраванні на патрэбы Сабора і выдавецтва «Царкоўнага пасланца».

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

*«...На працягу апошняга года-двух, калі нешта зрушылася з беларускай нацыянальнай справай на Беласточчыне, калі мы крыху «палітызаваліся» ў беларускім духу, рэакцыя царкоўнага асяроддзя на гэта, я б сказаў, дужа насцярожлівая, а часам і непрыхільная... Здавалася б, такога не павінна быць. Беларускі палітычны рух аніякім чынам не пагражае інтарэсам царквы на Беласточчыне...» — гэта адзін з момантаў размовы Яна Максімюка з айцом Рыгорам Сасной, што змешчана ў Беларускім календары на 1991 год, які выдала Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства Беласточчыны. Размова атрымалася змястоўнай і, думаю, што яна зацікавіць тых, хто сочыць за рэлігійным жыццём беларусаў за межамі нашай рэспублікі. Тут жа, у раздзеле «Размоўнае», друкуюцца гутаркі з пісьменнікам Сакратам Яновічам, сакратаром Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства і каардынатарам краявой управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Віктарам Стахвюком.*

*Чытачы календара маюць магчымасць пазнаёміцца з артыкуламі Зянона Пазняка «Шлях да свабоды», Алеся Галькевіча «Чарнобыль... Апошняе злачынства камунізму?», Лявона Тарасенкі «Беларуская Хірасіма», Уладзіміра Казберука «Веліч здзяйсненняў Францішка Скарыны», а таксама з літаратурнымі творамі Максіма Багдановіча, Сакрата Яновіча, Віктара Шведа, Надзеі Артымовіч, Сяргея Дубаўца, Міры Лукшы і іншых. Многіх зацікавяць «Нататкі аб беларускай літаратуры на эміграцыі» Томаса Бэрда.*

*Чытаючы хроніку беларускага руху, радуешся, а часам па-добраму зайздросціш беларусам Беласточчыны, якія жывуць багатым культурным і грамадскім жыццём. Адначасова абуджаюцца думкі: няўжо ў нас менш баліць душа за сваю Айчыну? Няўжо мы менш змагаемся за адраджэнне нашай культуры? Ды не! Але ж чаму толькі ў гэтым годзе мы здолелі выпусціць Беларускі каляндар, у той час як беларусы Беласточчыны такія календары выдаюць не ўпершыню? Ды што календары! У нас яшчэ і сёння на месцах храмаў будуюцца свінакомплексы, у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР гінуць кніжкі, дзеці адмаўляюцца вывучаць беларускую мову. І ўсё ж справа адраджэння набірае моц. Радуе тое, што свядомыя беларусы, дзе б ні жылі, не сядзяць склаўшы рукі, а робяць усё, што могуць, у справе адраджэння беларушчыны. І няхай пакуль выхад беларускага календара ці кніжкі мы яшчэ ўспрымаем, як свята, але прыйдзе дзень, наш Дзень, які ў беларускіх календарах будзе пазначаны чырвонай лічбай.*

***В. Ш.***

*Ці зрабілі заяўку?*

# З ДАЎНІНЫ ДА НАШЫХ ДЗЁН

**У свядомасці многіх пакаленняў нашых продкаў, асабліва крывічоў і дрыгавічоў, захоўвалася пачуццё крэўнасці, сваяцтва да тых славян, што перавандравалі за Дунай і пасяліліся над далёкай і загадкавай Адрыятыкай. Там яны засноўвалі княствы, паступова фарміраваліся ў асобныя славянскія нацыі, у якіх складваліся своеасаблівыя звычаі і сцвярджаліся традыцыі, праяўляўся клопат аб прыгожым пісьменстве і выяўленчым мастацтве, музыцы і танцах. Пра ўсё гэта ідзе гаворка ў кнізе гісторыка-славіста Льва Мірачыцкага «Беларуска-югаслаўскія культурныя і навуковыя сувязі», якая сёлета пабачыць свет у выдавецтве «Навука і тэхніка».**

**У ёй упершыню даследаваны ўзаемасувязі і ўзаемадзеянне культур беларускага і югаслаўскіх народаў з глыбокай даўніны да нашых дзён. Асвятляецца ўклад у развіццё сувязей з паўднёвымі славянамі Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага, Саламеі Рэгіны Русецкай і Аляксандра Сапегі, Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага і Міхаіла Бабро̆ўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча.**

**Асэнсавана дзейнасць па актывізацыі культурных зносін з паўднёвымі славянамі дзеячаў беларускай культуры нашаніўскай пары, перадусім Янкі Купалы і Антона Луцкевіча, Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага, а пазней і Вацлава Ластоўскага, Язэпа Драздовіча, Якуба Коласа, Ігната Дварчаніна і Міхаіла Забэйды-Суміцкага. Шмат для гэтай высакароднай справы зрабілі сучасныя дзеячы беларускай навукі, літаратуры і мастацтва, сярод якіх пачэснае месца занялі Ніл Гілевіч, Янка Сіпакоў, Пятро Бітэль, Іван Чарота, Барыс Сачанка. Паказана дзейнасць па развіццю сувязей з беларусамі славенцаў Прыможа Трубара і Яна Шэдзівага, харватаў Юрыя Крыжаніча і Івана Гундуліча, а таксама сучасных работнікаў культуры і навукі югаслаўскіх народаў.**

**Выданне сувенірнае, разлічана на актывістаў згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», сяброў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, выкладчыкаў гісторыі і літаратуры вышэйшых навучальных устаноў і сярэдніх школ, студэнтаў і вучняў старэйшых класаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і культурай беларускага народа, яго міжнароднымі сувязямі.**

**Аддзел зарубежных сувязей Беларусі Інстытута гісторыі АН БССР і рэдакцыя гістарычнай літаратуры выдавецтва «Навука і тэхніка» зацікаўлены задаволіць жаданні чытачоў, якія хацелі б набыць названую кнігу. Таму для гэтага неабходна зрабіць на яе да 25 чэрвеня заяўкі. Ад мінчан іх ахвотна прымуць у магазіне «Акадэмкніга» (Ленінскі праспект, 72), у кнігарнях «Светач» (пр. Машэрава) і «Маладосць» (вул. Горкага), не адмовяць і ў іншых кнігарнях сталіцы. Заяўкі на кнігу ад бібліятэк і індывідуальна прымаюцца ўсімі магазінамі аблкнігагандлю і аблкаапгандлю, а таксама абласнымі бібліятэчнымі калектарамі.**

**У адпаведнасці з заяўкамі выдавецтвам «Навука і тэхніка» будзе вызначаны неабходны наклад кнігі.**

**Таццяна ПАПОЎСКАЯ,**
**сакратар аддзела зарубежных сувязей Беларусі Інстытута гісторыі АН БССР.**

 

*Культура мовы*

# Не кажы наўздагад, кладзі слова ў лад

*Заканчэнне.*
*Пачатак у № 13.*

Ни к селу ни к городу — *Ні да печы ні да рэчы; Ні ў тры ні ў два; Ні з пушчы ні з поля*

Ни ответа ни привета — *Ні чуткі ні почуткі; І вочуткі не чуваць; І почуту няма*

Ни пуха ни пера — *Ляшчы ды акуні; Лаўцу з аўцу, братка; Дай жа, божа, нашаму лаўцу з аўцу*

Ни рыба ни мясо — *Ні лой ні масла; Ні лой ні мяса, горай дурня Апанаса; Ні печаны ні вараны*

Ни с того ни с сего — *Без нічога ніякага; Ні села ні пала; З дабраме́ру*

Одного поля ягоды — *З аднаго гнязда птушкі; З аднаго балота чэрці; Адным возам па піва едуць*

Олух царя небесного — *Асёл маляваны; Дурань маляваны; Непадсява́ны дурань*

Отдать концы — *Ключыкі ў мора аддаць; Вечкам накрыцца; Душа з цела выйшла*

Откуда ни возьмись — *Ні адтуль ні адсюль; Ні стуль ні ссюль*

Палец о палец не ударить — *Саломку не пераламаць; Ні за халодную ваду; Рук не падлажыць*

Парень хоть куда — *Да зайца стралец і да дзевак маладзец; І да волікаў пастух і да конікаў канюх*

Подливать масла в огонь — *Саломы ў агонь падкладаць; Смалы ў агонь падліваць; Прыску падсыпаць*

Под мухой — *Пад чаркай; У чуб укінуў; З карчмаром прывітаўся; Чмялі мае ў носе*

Поднимать на смех — *На смех браць; Высмешкі строіць; Вочы выбіраць; Смешкі правіць*

Под открытым небом — *Пад богаваю страхою; Пад голым небам*

Получить кукиш с маслом — *Дулю з'есці; Трасцу схапіць*

Поминай как звали — *Ужо і па клёцках; Толькі і чулі; І следу не стала*

После дождичка в четверг — *На тое лета, пасля абеда, гэтакаю парою; Заўтра ў тую пару, калі рак паляціць з вады ўгару*

При последнем издыхании — *Тры чвэрці да смерці; Адну пятніцу жыць засталося; Пара да двара*

Проще пареной репы — *Як абаранак з'есці; Як арэх раскусіць; Як лапаць сплесці*

Пустить по миру — *Да торбы давесці; У старцы пусціць; Да пугі давесці*

Путаться под ногами — *Пад нагамі таўчыся; Пад рукі лезці; Смалою дакуча́ць*

Пьян как сапожник — *Хапіў з дзежкі, што не бачыць сцежкі; Сягоння не адзін, з свіннёю; П'яны як рамізнік*

Работать спустя рукава — *Па канец рук працаваць; Шарварку адрабляць; Рабіць як мокрае гарыць*

Развесистая клюква — *Грушы на вярбе; Шышкі на вярбе; Смаловы (смаляны́) дуб*

С бухты-барахты — *Проста з моста; Не сабраўшы розуму*

С гулькин нос — *Камарова жменя; З вераб'ёву душу; З камарову лытку; Як вераб'ю дзеўбануць*

Семи пядей во лбу — *Чэрап густа варыць; З двума віхрамі; Моцная галава*

С жиру беситься — *Лой скуру пад'ядае; Бы́та бакі рве; Бы́та бакамі прэ*

Сказка про белого бычка — *Каза́ная казка; Дакучная байка; Старая показка*

С легким паром — *Шайковы венік, лёгкі дух; Добрае пары*

Стереть с лица земли — *Са свету зглазіць; У ніве́ч абярнуць; З ма́пы выкасаваць*

Столкнуть лбами — *У рожкі звесці; Хахлы звязаць; Вузлікі завязаць*

Стричь под одну гребенку — *Пад адзін капыл падганяць; Пад адзін грэбень раўнаваць*

Сукин сын — *Гад печаны; Чорт лазаты; Вужава кроў; Няўлюддзе паганае*

Счастливого пути — *Гладкае дарожкі; Пухам дарожка; Сакалінага лёту; Асвяці, божа*

Турусы на колесах — *Журавель на хвойцы; Мох і балота; Лухта непадсяваная*

Тяп да ляп — *Абы з рук збыць; Стук, грук, абы з рук; Сяк-так, абы далей*

Ума не приложить — *Ладу не дабраць; Тропу не ўхапіць; Глу́зду не прыставіць*

У черта на куличках — *У віра́х на юра́х; У чортавых зубах; Процi ліха на ўзгорачку*

Хоть глаз выколи — *Хоць у хованкі гуляй; Хоць на воўка ўзлезь; Хоць паўзі; Рук не відаць*

Хоть кол на голове теши — *Хоць у лоб страляй; Хоць лапатку адпары; Хоць дробным лістам рассыпся*

Хоть отбавляй — *Хоць дарма аддавай; Хоць каўшом бяры; Праз вушы лезе; Аж занадта*

Хоть шаром покати — *Ні ўзяць ні ўцяць; Хоць запалі; Як вымецена; Рук няма за што зацяць*

Чудо из чудес — *Над цудам цуд, над дзівам дзіва*

Шутки плохи — *Жарты кароткія; Да трох не гавары*

Яблоку негде упасть — *Носа не ўбіць; Няма куды пеўню дзюбнуць; Як завязаць*

Язык плохо подвешен — *Языка няма; Язык у лапцёх*

Язык хорошо подвешен — *Язык гладка ходзіць; Гаворыць як макам сыпле; Язык як у адваката*

Ганарар за публікацыю аўтар ахвяруе суполцы «Унія» Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Зьміцер САНЬКО.

*І смех і грэх*

## Пра ўнучку, новую шыльду і беларусізацыю

Я звычайны школьны вартаўнік. Пенсіянер. Дзве ночы адпачываю дома, адну — школу вартую. Жыў бы я гэтак сабе і нічога не ведаў бы, каб не завуч. Ён мне адно грамадскае даручэнне даў: знайсці старую школьную шыльду з часоў мінулае беларусізацыі. Справу я гэтую зрабіў. Сяджу ў калідоры і праз прачыненыя дзверы ў настаўніцкай слухаю, пра што ідзе гаворка. А яны сабе там сход праводзяць.

— У сувязі з сённяшнім палітычным становішчам трэба ў нашай школе правесці беларусіша... беларусішачы...ну, вы, калацей, зразумелі, што трэба, — прамовіў завуч. — Якія будуць прапановы?

Выкладчыкі ўставалі адзін за адным і прапаноўвалі:

— Трэба правесці тыдзень беларускай літаратуры ў школе!

— Заняцца распрацоўкай планаў!

— А давайце сваімі сіламі зробім школьную шыльду на беларускай мове! — прапанаваў фізкультурнік, як самы рашучы чалавек у школе.

— Не, галоўнае, трэба наладзіць перападрыхтоўку нашых настаўнікаў, каб з наступнай чвэрці віталіся з дзецьмі на беларускай мове! — запярэчыў нехта.

— Не, галоўнае — шыльду! — гнуў сваю рашучую лінію фізкультурнік.

Завуч згодна ківаў галавой. Відаць, забыў, якое мне даручэнне даў. А я сяджу сабе ў калідоры, слухаю ды чышчу старую шыльду. У ёй усё — ад першай да апошняй літары — па-беларуску напісана. Шчыра кажучы, я даўно ўжо спяшаўся дахаты, бо трэба было забраць з дзіцячага садка ўнучку. Таму давялося ўлезці ў іх навуковы дыспут. Кажу:

— Прабачце, калегі, шыльда ёсць гатовая. Давайце павесім — ды я пайду.

Але ніхто не слухаў. Ішло абмеркаванне, якога колеру рабіць шыльду.

— Мне ўнучку трэба забіраць! Давайце шыльду будзем вешаць! — паўтарыў я.

Аднак кожны казаў пра сваё.

Тут прыйшла настаўніца біялогіі, і я звярнуўся да яе:

— Хоць вы мяне паслухайце! Мне ўнучку з садка забраць трэба. Давайце шыльду павесім!

— Нічога не разумею: якая шыльда, чыя ўнучка?

— Ды ў нас тут ашкаляцыя беларусізацыі, Ядвіга Іванаўна. Зараз мы вам усё растлумачым,— мовіў завуч.

І настаўнікі, перабіваючы адзін аднаго, пачалі дзяліцца сваімі грандыёзнымі планамі наконт таго, як лепш зрабіць новую шыльду. Я ледзь не плакаў, бо ўявіў, як маю ўнучку ўшчувае праз мяне выхавацелька. Сэрца маё зашчаміла. Ажно тут усе схамянуліся, што важнае пытанне з шыльдаю вырашаецца без дырэктара школкі. Нехта сказаў:

— Дык ён жа захварэў!

— А давайце да яго пойдзем, бо справа такая, што адкладаць немагчыма.

Прапанову падтрымалі. Пайшлі. Я праз усю дарогу думаў, як бы мне ўлезці наперадзе ўсіх, каб сказаць дырэктару, што трэба бегчы ў садок. Вядома, можна было пакінуць гэтую шыльду там, дзе яна ляжала, і пайсці сабе, але я яе паказаў прыбіральшчыцы, а яна — кабета языкатая. Ого, чаго можа нагаварыць пад настрой! Ну і сітуацыя...

Усёй грамадою мы падышлі да кватэры дырэктара. Першым пачаў завуч:

— Мы прыйшлі да вас, каб паведаміць пра вельмі важную справу. У сувязі з перабудовай і беларусі....

Я скеміў, што гэтая прамова зацягнецца надоўга. І рвануўся наперад. Што было моцы выпаліў:

— Шыльда ўжо ёсць. Яшчэ сталінская. А мне, таварыш дырэктар, унучку трэба забраць з садка.

Узняўся гармідар. Тады дырэктар падняў руку. Усе сціхлі. Ён прамовіў: Я ўжо і сам думаю пра гэта. Але шыльду ўсё ж давядзецца зрабіць новую, у духу нашага часу і згодна з новым правапісам. А як зробім гэтую вялікую справу, калектыўна рушым па ягоную ўнучку. Трэба ж нам тварам да радавых работнікаў паварочвацца, іх уласнымі праблемамі цікавіцца. Плюралізм і сацыяльная палітыка як-ніяк сюды скіроўваюцца апошнімі рашэннямі.

Шыльду павесілі. Унучку забралі. Я яе ледзве пазнаў, так яна падрасла за чатыры месяцы.

Паўло СВЯТАЯННЫ.

# НАСУСТРАЧ II З'ЕЗДУ ТБМ

## *У САКРАТАРЫЯЦЕ ТАВАРЫСТВА*

***Адбылося чарговае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы з'езда. Наступныя рэгіянальныя арганізацыі ТБМ прайшлі рэгістрацыю і маюць права вылучаць дэлегатаў на з'езд.***

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Асіповіцкая раённая рада
2. Бялыніцкая раённая рада
3. Касцюковіцкая раённая рада
4. Клімавіцкая раённая рада
5. Магілёўская гарадская рада
6. Магілёўская раённая рада
7. Першамайская раённая рада г. Бабруйска
8. Крычаўская раённая рада

**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Барысаўская гарадская рада
2. Барысаўская раённая рада
3. Валожынская раённая рада
4. Вілейская раённая рада
5. Дзяржынская раённая рада
6. Заслаўская гарадская рада
7. Івянецкая рада
8. Клецкая раённая рада
9. Лагойская раённая рада
10. Маладзечанская аб'яднанне раённа-гарадской рады
11. Мінская гарадская рада
12. Пухавіцкая раённая рада
13. Слуцкая раённая рада
14. Салігорская рада
15. Стаўбцоўская рада
16. Радашковіцкая рада
17. Мядзельская рада

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Гомельская гарадская рада
2. Жлобінская аб'яднаная раённа-гарадская рада
3. Мазырская гарадская рада
4. Рэчыцкая гарадская рада
5. Светлагорская рада
6. Хойніцкая рада

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Астравецкая раённая рада
2. Ваўкавыская гарадская рада
3. Гродзенская гарадская рада
4. Гродзенская раённая рада
5. Дзятлаўская раённая рада
6. Дзярэчынская раённая рада
7. Зэльвенская раённая рада
8. Мастоўская раённая рада
9. Навагрудская раённая рада
10. Слонімская гарадская рада
11. Смаргонская раённая рада

**БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Баранавіцкая гарадская рада
2. Брэсцкая гарадская рада
3. Рада Давыд-Гарадка
4. Жабінкаўская раённая рада
5. Івацэвіцкая раённая рада
6. Пружанская раённая рада
7. Столінская гарадская рада

**ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Аршанская гарадская рада
2. Віцебская гарадская рада
3. Гарадоцкая раённая рада
4. Докшыцкая раённая рада
5. Лепельская раённая рада
6. Наваполацкая гарадская рада
7. Пастаўская раённая рада
8. Полацкая гарадская рада
9. Полацкая раённая рада
10. Ушацкая раённая рада
11. Шаркоўшчынская раённая рада
12. Рада Міёрскага р-на

**МІНСК**

1. Раённая рада АН БССР
2. Інстытут цепла- і масаабмену АН БССР
3. Агульнауніверсітэцкая рада
4. Асацыяцыя беларускамоўных выкладчыкаў БССР
5. Незалежны настаўніцкі камітэт
6. Гарадскі бацькоўскі камітэт
7. Рада Заводскага р-на
8. Рада Кастрычніцкага р-на
9. Рада Ленінскага р-на
10. Рада Маскоўскага р-на
11. Рада Першамайскага р-на
12. Рада Савецкага р-на
13. Рада Фрунзенскага р-на
14. Рада Цэнтральнага р-на
15. Рада Партызанскага р-на

**СЯБРЫНЫ**

1. Аддзел дыктараў Беларускага радыё
2. «Агмень»
3. «Выбранецкія шыхты»
4. «Выбранцы»
5. Здзіночанне беларускіх студэнтаў
6. Клуб аматараў творчасці Данчыка
7. «Сябрына»
8. «Гоман»
9. Міжгародная Рэспубліканская тэлефонная станцыя
10. МДІ сродкаў аўтаматызацыі
11. Невялічкі Беларускі тэатр-студыя
12. Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей
13. Суполка «Унія»
14. Харавы калектыў «Унія»
15. «Зніч»
16. Педінстытут замежных моў
17. Тэатр-студыя «Золак»
18. Суполка «Зніч» — Ніжні Ноўгарад
19. ЗБММ «Пагоня»

Астатнія арганізацыі павінны зарэгістравацца ў сакратарыяце ТБМ.






Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2443. Індэкс 74975.


 